 



# ЕЎРАПАРЛАМАНТ НЕ ПРЫЗНАЕ ВЫНІКАЎ РЭФЕРЭНДУМУ

**У Менск на адрас Вярхоўнага Савету Беларусі 13-га скліканьня паступіла падрыхтаваная Еўрапарламантам «сумесная прапанова для рэзалюцыі (пастанова 47) па сітуацыі ў Беларусі».** У ёй адзначаецца, што Еўрапарламант выказвае сур'ёзныя сумненьні адносна працэдуры правядзеньня канстытуцыйнага рэферэндуму, паколькі падчас рэферэндуму і давыбараў у парламант быў дапушчаны цэлы шэраг істотных парушэньняў як у працэсе падрыхтоўкі галасаваньня, так і падчас датэрміновага галасаваньня і нават пры падліку галасоў. Еўрапарламант адзначае таксама, што «прэзідэнт Лукашэнка выкарыстаў вынікі канстытуцыйнага рэферэндуму для ўзмацненьня метадаў аўтарытарнага праўленьня, што праявілася ў тэрмінах прадаўжэньня сваіх паўнамоцтваў з пяці да сямі гадоў і ў прызнаньні абавязковымі прапанаваных ім зьмяненьняў і дапаўненьняў у Канстытуцыю...». Еўрапарламант прыйшоў да высновы, што «шматлікія сур'ёзныя парушэньні, якія мелі месца да і падчас рэферэндуму, прыводзяць да таго, што яго вынікі ня могуць лічыцца сапраўднымі». У гэтым дакуманце адзначаецца таксама, што «адзіным прадстаўнічым органам Беларусі зьяўляецца дэмакратычна абраны ў 1995 годзе парламант». Еўрапарламант пацьвярджае сваё ра-шэньне «не рабіць ніякіх далейшых крокаў па ратыфікацыі Пагадненьня аб Партнёрстве і Супрацоўніцтве паміж Еўрапейскім Саюзам і Беларусьсю да таго часу, пакуль улады Беларусі не дадуць недвухсэнсоўна зразумець, што яны маюць намер у поўным аб'ёме паважаць асноўныя дэмакратычныя правы і свабоды чалавека». У дакуманце зьмяшчаецца таксама заклік спыніць ўсе праграмы падтрымкі і дапамогі Беларусі, за выключэньнем праграмы TACIS, якая ўключае захады па падтрымцы незалежнай прэсы.

**Уладзімір ГЛОД.**

# СУСЕДЗІ СУПРАЦЬ ДЫКТАТУРЫ

**Рашэньнем другога нечарговага зьезду Сацыял-дэмакратычнай партыі Украіны (аб'яднанай) 17 сьнежня ў Кіеве створаны Міжнародны камітэт абароны дэмакратыі ў Беларусі.**

У склад камітэту ўвайшлі прадстаўнікі сацыял-дэмакратычных партыяў Украіны, Швецыі, Германіі, Польшчы, Малдовы, якія бралі ўдзел у зьезьдзе СДПУ(а). Па словах прэс-сакратара СДПУ(а) Я.Шафранскага, стварэньне камітэту выклікана нядаўнім затрыманьнем і судом над старшынём беларускай Сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная грамада), а таксама імкненьнем спыніць нарастаньне аўтарытарызму у Беларусі.

Мяркуецца,шта старшынём гэтага камітэту стане лідар СПДУ(о)Васіль Ананенка.

# РАСЕЯ СТЫМУЛЯВАЛА РАСКОЛ І ПРОЦІСТАЯНЬНЕ

**На думку старшыні Народнага Руху Украіны Вячаслава Чарнавіла, прамая залеж насьць правячага рэжыму Беларусі ад Расейскай Федэрацыі можа прывесьці да негатыўных наступстваў у беларуска-ўкраінскіх эканамічных адносінах, у прыват насьці, у пытаньні аб падатку на дадатковую вартасьць.**

Як паведаміла ўкраінскае інфармагенцтва УНІАН, 2 сьнежня на прэс-канферэнцыі ў Кіеве лідар Руху заявіў, што Украіна павінна выказаць незадаволенасьць кі раўніцтву Расеі ў сувязі са стымуляваньнем палітычнага расколу і народнага процістаяньня ў Беларусі. Расея, на думку В.Чарнавіла, «адыграла найважнейшую ролю ў падзеях у гэтай краіне з мэтай у што б ні было абуладкаваць імперскую федэрацыю».

В.Чарнавіл назваў рэакцыю афіцыйнай Украіны на падзеі у Беларусі «занадта стрыманай» і адзначыў неабходнасьць «істотнай падтрымкі беларускіх нацыянал-дэмакратаў палітычнымі сіламі Украіны». НРУ, па яго словах, будзе падтрымліваць Беларускі Народны Фронт у барацьбе за дэмакратызацыю Беларусі.

# ШТО РАБІЦЬ З БЕЛАРУСЬСЮ?

**Пасьля рэферэндуму на Беларусі склалася дзіўная сітуацыя. Парламант, які прызначыў прэзідэнт, не прызнала ніводная еўрапейская краіна, акрамя Расеі. Аляксандр Лукашэнка ігнаруе прынятыя ў цывілізаваным сьвеце дэмакратычныя нормы. Але Беларусь займае адно з найважнейшых геапалітычных становішчаў у Еўропе. Ігнараваць нашую краіну суседзі ня могуць.**

Што рабіць з Беларусьсю? На гэтае пытаньне 15 сьнежня ў інтэрв'ю праграме польскага тэлебачаньня «Дзяржаўныя інтарэсы» адказваў прэзідэнт Польшчы Аляксандр Квасьнеўскі. «Пагоня» друкуе ягоны выступ з невялікімі скарачэньнямі.

«Як гаварылася ў супольнай заяве прэзідэнтаў Польшчы, Летувы і Украіны, а таксама ў маім выступе ў Лісабоне, Еўропе патрэбная сувярэнная дэмакратычная Беларусь. Мы зацікаўленыя, каб гэты край мог увайсьці ў сям'ю еўрапейскіх дзяржаваў, меў шанц разьвіцьця эканомікі.

Але нельга ствараць дэмакратыю праз ламаньне яе падставовых нормаў. Прызначэньне парламанту, парушэньне правоў чалавека, абмежаваньне свабоды слова. Гэта факты, якія нас непакояць і не дазваляюць быць абыякавымі да таго, што робіцца на Беларусі.

У справе абароны дэмакратычных каштоўнасьцяў палітыка Польшчы павінна быць цьвёрдай. Я лічу, што падзеі апошніх месяцаў не дазваляюць сумнявацца ў гэтым. Маю на ўвазе дзеяньні нашага парламанту, Міністэрства замежных справаў і мае як прэзідэнта.

З іншага боку, мы ня можам адпіхваць Беларусь на дарогу з адным накірункам. А накірунак гэты - Расея. Таму трэба падтрымліваць гаспадарчыя сувязі. Неабходна ўсё рабіць, каб мяжа была празрыстай. Супрацоўнічалі грамадзкія арганізацыі. Адбываліся навукова-культурныя абмены.

Мы павінны вырашыць, як, не зьмяняючы нашых крытычных адносінаў да дзейнасьці беларускіх уладаў, утрымоўваць кантакты з Беларусьсю. На шчасьце, Беларусь - гэта ня толькі прэзідэнт. Беларусь - гэта грамадзтва, розныя яго структуры. Трэба з імі супрацоўнічаць. Ня можам адвярнуцца ад Беларусі.»

**Д.К.**

# ЗАГАДАНА НЕ ПАДДАВАЦЦА

**17 сьнежня ў зале пасяджэньняў Дома ўраду распачала працу першая сесія Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.**

Згодна з пададзенымі заявамі, працаваць у Палаце прадстаўнікоў выказалі жаданьне 122 дэпутаты Вярхоўнага Савету трынаццатага скліканьня.

Замест шаснаццаці пастаянных камісіяў, што дзейнічалі ў ранейшым Вярхоўным Савеце, мяркуецца стварыць адзінаццаць. У якасьці кіруючага воргана Палаты прадстаўнікоў А.Малафееў прапанаваў арганізаваць Савет палаты, у склад якога рэкамендаваў уключыць старшыню палаты, яго намесніка, начальніка сакратарыяту і старшыняў пастаянных камісіяў.

Раніцай 17 сьнежня перад дэпутатамі ніжняй палаты Нацыянальнага сходу Беларусі выступіў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка.

Ён заклікаў дэпутатаў «не займацца дзялёжкай партфеляў занадта доўга.» Па словах прэзідэнта,у пачатку студзеня будзе сфармаваны Савет рэспублікі, пасьля чаго парламанту неабходна будзе ўстанавіць жорсткую сістэму ўзаемадзеяньня паміж ніжняй і верхняй палатамі. Нагадаўшы, што «ўстанаўленьне парламанту мае важнае знешнепалітычнае значэньне», А.Лукашэнка заклікаў дэпутатаў уключыцца ў еўрапейскую сістэму міжпарламанцкага супрацоўніцтва.Прэзідэнт адзначыў, што «тыя, каму народ адмовіў 24 лістапада, разьвялі бурную дзейнасьць за мяжой». З мэтай прапаганды вынікаў рэферэндуму, запэўніў А.Лукашэнка, выканаўчая улада акажа парламанту любую неабходную падтрымку: Міністэрства замежных справаў і беларускія прадстаўніцтвы за мяжой, па яго словах, ужо атрымалі адпаведныя даручэньні. Пры гэтым, аднак, кіраўнік дзяржавы даў дэпутатам наступную ўстаноўку: «прызнаньне альбо непрызнаньне вынікаў рэферэндуму ня можа быць прадметам перамоваў з замежнымі калегамі».

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

# НЯ ЎСІХ МОЖНА КУПІЦЬ

**Дэпутаты Вярхоўнага Савету Беларусі 13-га скліканьня прынялі заяву, якую па даручэньні 70 парламантарыяў падпісаў ягоны Старшыня Сямён Шарэцкі.**

У дакуманце адзначаецца, што парламантарыі, якія засталіся вернымі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 году, «ня могуць прызнаць легітымнымі вынікі мерапрыемства, праведзенага па ініцыятыве прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнкі з 9 па 24 лістапада 1996 году. Падставай гэтаму зьяўляюцца зафіксаваныя шматлікія парушэньні існых законаў і грубейшая фальсіфікацыя вынікаў праведзенага рэферэндуму».

У заяве сьцьвярджаецца, што толькі Вярхоўны Савет Беларусі 13-га слііканьня зьяўляецца легітымным прадстаўніком беларусаў ва ўзаемаадносінах з Парламанцкай Асамблеяй Савету Еўропы, Еўрапарламантам, Міжпарламанцкім Саюзам, АБСЕ, іншымі міжнароднымі арганізацыямі, нацыянальнымі парламан-тамі замежных дзяржаваў.

Далей у заяве гаворыцца: «Няглед-зячы на шматлікія факты грубага ўціску, шантажу, спробаў подкупу, на магчымасьць прадаўжэньня рэпрэсіўных дзеяньняў супраць нас і членаў нашых сем'яў, мы застаемся на пазіцыі канстытуцыйнай законнасьці. Ня ўсіх яшчэ ў гэтай краіне можна запалохаць, купіць, паставіць на калені. Намі кіруе ня прага ўлады, не палітычныя амбіцыі, а жаданне бачыць Беларусь свабоднай дзяржавай, прававой, багатай, дэмакратычнай».

Дэпутаты Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня зьвяртаюцца да міжнароднай грамадзкасьці з заклікам не прызнаваць легітымнымі вынікі рэферэндуму і правамоцнымі структуры і інстытуты дзяржаўнай улады, якія ствараюцца ў адпаведнасьці з Канстытуцыяй 1996 году, якая ня мае юрыдычнай сілы.

**Уладзімір ГЛОД.**




# АЛЯКСАНДРА ПРЫРАЎНЯЛІ ДА СЛАБАДАНА

**У Ірландыі завяршыўся саміт краінаў-членаў Еўрапейскага Саюзу.** Як паведамляе германскае інфармацыйнае агенцтва ДПА, у выніковым дакуманце сустрэчы еўрапейскія дзяржавы, у прыватнасьці, заяўляюць, што і надалей будуць аказваць падтрымку Украіне і Расеі ў правядзеньні палітычных і эканамічных пераўтварэньняў. Акрамя таго, у заяве дублінскага саміту краінаў-членаў ЕС выказваецца занепакоенасьць сацыяльна-палітычнай абстаноўкай у Беларусі, зьмяшчаецца заклік да прэзідэнта Сербіі Слабадана Мілошавіча садзейнічаць прасоўваньню эканамічных рэформаў у ягонай краіне.

**Юры КУЗЬНЯЦОЎ**

# У ЧАКАНЬНІ НОВЫХ РЭПРЭСІЯЎ

**«Апошнія ў Цэнтральна-Усходняй Еўропе антыдэмакратычныя рэжымы - Лукашэнкі ў Менску і Мілошавіча ў Бялградзе - спрабуюць пры маўклівай падтрымцы Масквы сілаю задушыць пратэсты супраць парушэньня правоў чалавека і фальсіфікацыяў галасаваньня,» - гаворыцца ў прынятай 13 сьнежня заяве кіраўніцтва БНФ «Адраджэньне».Далей гаворыцца:**

«Чарговая хваля арыштаў у сталіцы Беларусі адбылася 8 сьнежня, у дзень сустрэчы дэпутатаў Вярхоўнага Савету з выбаршчыкамі, і 10 сьнежня, у Міжнародны дзень абароны правоў чалавека. У выніку спробы заступіцца словам за схопленага міліцыяй сп. А.Біча была арыштаваная Ірма Табушава,настаўніца, 1940 году нараджэньня. Гэтай немаладой інтэлігентнай жанчыне прысудзілі 10 сутак адміністрацыйнага арышту, але не давезьлі да турмы: з сардэчным прыступам яна трапіла ў шпіталь. Прадпрымальнік, сябра БНФ А.Біч таксама засуджаны на 10 сутак. Лідар сацыял-дэмакратаў Мікола Статкевіч атрымаў 15 сутак арышту. На розныя сумы штрафу пасьля сутачнага зьняволеньня асуджаныя дзесяткі студэнтаў - удзельнікаў акцыі ў абарону правоў чалавека 10 сьнежня, іншыя чакаюць суду. Няма сумневу, што новыя акцыі пратэсту, прызначаныя на 23-24 сьнежня, таксама выклічуць рэпрэсіі з боку ўладаў.

Мы зьвяртаемся да ўрадаў і парламантаў краінаў Еўропы і сьвету з заклікам жорстка патрабаваць ад рэжыму Лукашэнкі спыніць перасьлед людзей за перакананьні. Заклікаем усіх людзей добрай волі ў Беларусі працягваць і ўзмацняць барацьбу ў абарону канстытуцыйнага ладу ад хунты.»

# ЗАСТАЕЦЦА ЎВАСКРАСІЦЬ ЛЕАНІДА ІЛЬІЧА

**З Новага году на Гарадзеншчыне будуць дзейнічаць дзьве самастойныя камуністычныя партыі.** 18 сьнежня ў Горадні прайшоў сход гарадзкой арганізацыі Камуністычнай партыі Беларусі.Яго ўдзельнікі вылучылі дэлегатаў на запланаваны на 21 сьнежня ў Горадні ўстаноўчы сход абласной арганізацыі КПБ. Новая партыя, створаная ў супрацьвагу Партыі камуністаў беларускай, кіраўніцтва якой знаходзіцца ў апазіцыі да прэзідэнта, зарэгістравана ў Міністэрстве юстыцыі ў сярэдзіне лістапада. Да траўня 1997 году «капэбаўцы» зьбіраюцца правесьці рэспубліканскі «аднаўленчы» зьезд, на якім будзе абраны ЦК ды іншыя кіраўнічыя воргаы партыі.

**В.Дрэма**

# СНЫ АБ НЕЧЫМ БОЛЬШЫМ

**Цалкам выкарыстаўшы ў мэтах вылучэньня сваіх дэпутатаў у Вярхоўны і мясцовы саветы абрэвіятуру ПКБ Маладэчанская арганізацыя камуністаў адзінагалосна, у поўным складзе, прыняла рашэньне выхаду з ПКБ і ўступленьне ў прэзідэнцкую чыкінска-малафееўскую КПБ.**

Першым сакртаром арганізацыі абраны 82-гадовы камуніст сталінскай загартоўкі П.Бажко, другім - А.Карпенка, сумна вядомы па пройгрышы сп. П.Краўчанку ня толькі выбараў у ВС, але судовага працэсу за брутальны паклёп і абразу годнасьці свайго суперніка. У сваёй ухвале «новыя» камуністы ў традыцыйнай манеры заклікаюць кожнага беларуса да змаганьня за шчаслівую будучыню супраць правых нацыянал-экстрэмісцкіх сілаў і іх пасобнікаў Новікава і Калякіна на чале з усенародна абраным і ўсенародна любімым «вождём» беларускага народу А.Лукашэнкам, якога яны нават у сьне бачаць будучым прэзідэнтам аб'яднанай ад Бугу да Курылаў дзяржавы.

**Алесь ЦАДКО**

# ЗАГРАНІЦА НАМ ДАПАМОЖА?

**Палітычныя аглядальнікі і дзеячы сёньня актыўна абмяркоўваюць магчымасьць міжнароднага байкоту палітычнаму рэжыму на Беларусі. Ці сапраўды беларуская дэмакратыя адчуе падтрымку афіцыйнай сусьветнай супольнасьці, якая яшчэ ніводнага разу нічога не зрабіла дзеля беларушчыны?**

Пасьля перамогі на прэзідэнцкіх выбарах,У.Клінтан сфармаваў вельмі абноўлены кабінет міністраў. Дзяржсакратаром прызначыў Мадлен Олбрайт, па паходжаньню чэшку, бацька каторай эміграваў пасьля захопу ў канцы 40-х улады на Чэхаславаччыне прарасейскім камуністычным урадам. Пані Олбрайт працавала пастаянным прадстаўніком ЗША пры ААН і вызначалася прынцыповай пазіцыяй у абароне дэмакратычных каштоўнасьцяў.

Па свайму жыцьцёваму вопыту і прынцыповай пазіцыі М.Олбрайт добра разумее, што азначае для народаў былога камуністычнага лагеру ўзнаўленьне крамлёўскага ўплыву на іх лёс.Па сваёй палітычнай дасьведчанасьці і адукацыі яна добра ўсьведамляе ролю «беларускага кішэня» паміж дзьвюма еўрапейскімі ўнутранымі марамі і разнастайнымі народамі. Па свайму чэшскаму паходжаньню яна добра ведае, што азначае прымусовая асіміляцыя, марыянетачнае кіраўніцтва і міжнародная здрада. Ад Мадлен Олбрайт варта чакаць падтрымкі Беларусі, паколькі яна напэўна лічыць гэта адпавядаючым інтарэсам Амерыкі.

Аднак ня толькі асабістыя погляды М.Олбрайт могуць садзейнічаць перагляду Злучанымі Штатамі палітыкі здачы Беларусі. Апазіцыйная рэспубліканская большасьць у амерыканскім кангрэсе даўно агрэсіўна крытыкуе аморфнасьць палітычнай лініі ЗША у дачыненьні да Расеі. Калі Амерыка прайграе палітычную партыю ў Еўропе з нагоды пашырэньня НАТА, гэта будзе найвышэйшым праколам амерыканскай зьнешняй палітыкі, і гісторыя Клінтану гэтага не даруе. Такім чынам, падтрымка дэмакратычнай Беларусі аб'ектыўна адпавядае амерыканскім нацыянальным інтарэсам (параўнайце гэта з імпэтам, з якім А.Лукашэнка выступае супраць НАТА, ЦРУ і ўвогуле супраць дэмакратыі, цывілізацыі, але найбольш - супраць Амерыкі).

Сёньня ўсе ў ЗША бачаць, што патураньне Расеі болей не адпавядае амерыканскім інтарэсам. У дадатак, ім ёсьць на каго абаперціся ўнутры Беларусі. Імідж нашага кіраўніцтва і тых сілаў у Расеі, што яго падтрымліваюць, дазваляе Амерыцы з лёгкасьцю апраўдаць сваю пазіцыю перад міжнароднай супольнасьцю.

**Сяргей Самасей**

 



# НАС ЯДНАЮЦЬ СУПОЛЬНЫЯ ДУМКІ

**Першай рэакцыяй людзей на навіну пра тое, што 12 сьнежня ў Горадню прыязджае Данчык, была няўпэўненасьць у праўдзівасьці інфармацыі. У рэдакцыі «Пагоні» не змаўкаў тэлефон. Усхваляваныя чытачы цікавіліся: «Гэта праўда? Данчык на Беларусі? У такі час?». Нават за некалькі хвілінаў да пачатку канцэрту тыя шчасьліўцы, якія здолелі набыць білеты, пыталі адзін аднаго: «Ці прыехаў? Ці ня зробяць улады якой правакацыі?».**

Хваляваліся людзі нездарма. Па словах прэзідэнта Беларускай Асацыяцыі Журналістаў Жаны Ліцьвіной, якая была адным з арганізатараў прыезду Данчыка на Беларусь, ёй з сябрамі давялося прайсьці праз шматлікія цяжкасьці, каб цудоўны голас Багдана Андрусішына маглі пачуць на Беларусі. Адміністрацыя шматлікіх установаў, якім належаць канцэртныя залы, адмаўлялася прыняць сьпевака. І гэта нягледзячы на тое, што ўвесь прыбытак ад продажу білетаў ішоў на аплату залы. Арганізатарам канцэртаў казалі, што зараз у краіне ня тая палітычная сітуацыя, каб прымаць Данчыка. Па гэтай прычыне зьменшылі колькасьць запланаваных канцэртаў, адмовіліся ад сьвяточнага выступу на Калядны вечар у Менску. Ні адна беларуская фірма не адважылася быць спонсарам турнэ Данчыка па Беларусі. Прыезд стаў магчымым толькі дзякуючы дапамозе Фонду Сораса.

Але сапраўднага мастацтва, якое пранікае ў душы людзей, не спыніць палітычнамі перашкодамі. Данчык прывез з сабой у Горадню адчуваньне Сьвята. Ён стаў пасланцам сьвету, дзе людзі жывуць нармальным жыцьцём, рыхтуюцца да сьвяткаваньня самых сьветлых і добрых дзён Нараджэньня Хрыстова і Новага году. Калядкі, песьні пра каханьне на беларускай, украінскай, ангельскай, французскай, нямецкай і габрэйскай мовах узрушылі прысутных у залі гарадзкога Дому афіцэраў. Сьлёзы шчасьця былі на вачах



і маладых, і старых людзей. Данчык аб'яднаў усіх. Мора кветак і бура апладысьментаў былі яму ва ўзнагароду.

Пасьля заканчэньня канцэрту стомлены, але шчасьлівы Данчык адказаў на некалькі пытаньняў журналістаў.

***- Данчык, што зьмянілася ў Тваім жыцьці з часу першага прыезду на Беларусь?***

- Зараз я працую журналістам. Пяць гадоў таму мне прапанавалі месца на радыё «Свабода». Там патрэбныя былі людзі, якія добра ведаюць беларускую і ангельскую мовы, маюць журналісцкую адукацыю. А мне надакучыла мая старая адміністратыўная праца ў банку. Я згадзіўся. Праўда, прыйшлося пераехаць спачатку ў Мюнхен,а потым у Прагу. Але не шкадую.Працую галоўным прадзюсерам. Падбіраю музычнае аздабленьне да праграмы. Мне гэта адпавядае і,да таго ж, цікава.

***- З якім настроем Ты ехаў на Беларусь?***

- Было адчуваньне няўпэўненасьці.Я ведаў, што сітуацыя зьмянілася. Нам адмаўлялі ў залах. Думаў: калі да мяне так ставяцца, калі няма дзе выступаць, дык на што ехаць? Але мая лепшая сяброўка сказала: «Табе дадзеная такая магчымасьць, якую маюць вельмі мала людзей. Дзякуючы свайму голасу, ты можаш добра кантактаваць з людзьмі, неяк да іх дайсьці.» Яна мяне пераканала.

А мая бабуля, калі даведалася,што еду на Беларусь,напісала: «Едзе авечка на вячэру да ваўка.».

Гарадзенскі канцэрт у мяне быў першым. Я ўжо доўга не сьпяваў, вельмі хваляваўся, калі выходзіў на сцэну. А яшчэ так холадна! Але публіка была надзвычайнай. Так цёпла мяне прынялі. Я застаўся вельмі задаволены.

***- Чаму Ты некаторы час не сьпяваў?***

- Проста не было натхненьня. Трэба, каб хацелася сьпяваць. Я быў на Беларусі ў 1993 годзе. Тады мне прапанавалі выступаць нават на стадыёне. Але ў той час мне не сьпявалася.

***- Можа, Ты зноў засьпяваў таму, што Беларусі зараз вельмі цяжка?***

- Так, напэўна. У мяне такое адчуваньне, што ад апошняга прыезду на Беларусь прайшло ня тры гады, а значна больш. Расчараваньне вялікае. Але нельга складваць рукі.Заўседы трэба мець надзею.

***- Данчык! Напэўна, усе чытачы «Пагоні» прыхільнікі Твайго таленту. Скажы, калі ласка, што-небудзь асабіста ім.***

- Мне вельмі прыемна. Столькі гадоў прайшло, а мяне яшчэ памятаюць. Я думаю, што справа не ў ва мне, а ў супольных думках, што нас аб'ядноўваюць.Шчасьлівы,што такія людзі ёсьць. Усім чытачам «Пагоні» зычу ўсяго найлепшага!

**Дз.Кісель.**

# ЗА КАЛЯДНЫМ СТАЛОМ

**Па старадаўнім звычаі на Божае нараджэньне за Калядным сталом зьбіраецца ўся сям'я. На сьвяточнай вячэры павінна быць 12 посных страваў. З пакаленьня ў пакаленьне перадаюцца рэцэпты іх прыгатаваньня. У Калядны вечар людзі могуць адчуць смак ежы, якую елі іх родзічы шмат стагоддзяў назад.**

**«Пагоня» прапануе чытачам старадаўнія рэцэпты трох Калядных страваў, традыцыйных на Гарадзеншчыне і Віленшчыне. Іх заўседы гатавалі і каталікі, і праваслаўныя.**

**КУЦЬЦЯ:** Галоўнымі кампанентамі куцьці зьяўляюцца мак, пярловая крупа і цукар.

Спачатку на вадзе гатуецца пярловая каша. Пасьля прыгатаваньня яна ахалоджваецца пры пакаёвай тэмпературы.

Мак для размягчэньня заліваецца кіпенем. Потым адцэджваецца.Перамешваецца з цукрам і расьціраецца.(Для гэтага можна ўжыць мясарубку. Але найсмачнейшая куцьця атрымаецца, калі мак расьціраць драўляным таўкачыкам у гліняным посудзе). Пасьля атрыманьня з маку і цукру аднароднай масы яна разьмешваецца з пярловай кашай. Для смаку можна дадаць мёду або разынкаў (ізюму).

На 1 кг. пярловых крупаў трэба браць 1 стакан маку. Цукар і мёд дадаюцца па густу.

**ЛАМАНЦЫ:** З вады, мукі і невялікай колькасьці соды робіцца цеста. Затым яно раскатваецца на дошцы ў тонкі пласт. Кладзецца на бляху і ставіцца ў духоўку.Пласты павінны зрабіцца сухімі. Іх ламаюць на невялікія кавалачкі і кідаюць у посуд з вадой. Туды ж кладзецца пацёрты мак (прыгатаваны так, як і для куцьці). Дабаўляецца некалькі сталовых лыжак мёду. Усё добра зьмешваецца. Калі ламанцы добра прапітаюцца, яны гатовы да ўжытку.

**СЬЛІЗЯКІ:** З поснага цесту робяцца тонкія «жгуцікі». Іх рэжуць на маленькія кавалачкі і смажаць на бляшцы на невялікай колькасьці алею да зьяўленьня румянцу. Ахалоджваюць пры пакаёвай тэмпературы.

Заліваюць кіпенем некалькі жменяў пшаніцы. Ахалоджваюць пры пакаёвай тэмпературы.

Падрыхтоўваюць мак ( так, як і да куцьці).

Разводзяць мёд у вадзе. На 1 літр вады ня менш 3 сталовых лыжак мёду.

На стол усе кампаненты стравы падаюцца асобна. Кожны з гасьцей бярэ іх па густу.

**З. Генаш.**

# СУСТРЭЧА Ў РАСТВО

На традыцыйныя сустрэчы ў Раство запрашае гарадзенцаў і гасьцей гораду 26-27 сьнежня музей гісторыі рэлігіі.

Наведвальнікаў музею чакае выстава «Раство Хрыстова», канцэрт гітарнай музыкі У.Захарава і клавесінная музыка М.Гарбунова. Пачатак вечарынаў у 18.30.

**Віктар Людвіковіч**

# ПАДАРУНКІ НА КАЛЯДЫ



Падарункі ад дабрачыннай каталіцкай арганізацыі «Карытас» у Горадні атрымаюць на Раство выхаванцы дзіцячых дамоў у Лідзе, Ашмянах, Навагрудку, Іўі, Радуні, Парэччы, Правых Мастах, а таксама дзеці з інфекцыйнага шпіталю ў Горадні. Сродкі на падарункі былі сабраныя пад час перадкалляднай акцыі па продажы ахвяраваных польскім «Карытасам» калядных сьвечак.

**В.Анімуцкі**

# ГАРАСКОП НА КАЛЯДЫ

**БАРАН** (21.3 - 20.4) Каляды пройдуць у цудоўным сьвяточным настроі. Будзе шмат прыемных сустрэчаў з сябрамі.Зоркі абяцаюць шчасьлівае знаёмства са Львом.

**БЫК** (21.3 - 20.5) Усе Каляды правядзеце паміж кухняй і сьвяточным сталом. Памятайце, што сьвяты існуюць ня толькі для таго, каб добра пад'есьці.

**БЛІЗЬНЯТЫ** (21.5 - 21.6) На Каляды ўспомніце, што вам прынёс мінулы год. Потым можаце атрымліваць асалоду ад зносінаў з блізкімі людзьмі. Чакайце падарунку ад каханага чалавека.

**РАК** (22.6 - 22.7) Шчасьлівы тыдзень для Ракаў, якія любяць сям'ю. Шмат нагодаў для ўзмацненьня сувязяў з роднымі. Госьці падкажуць добрую думку, якую выкарыстаеце ў сваей працы.

**ЛЕЎ** (23.7 - 23.4) Пасьля шалёнага рытму працы сьвяты лепш за ўсе сустрэць ў вузкім сямейным крузе. Але ня ўсе дні, бо зоркі абяцаюць, што «ўпалюеце» адзінокага Барана.

**ДЗЕВА** (24.8 - 23.9) Марс дадае Вам энергіі. Сёлетнія сьвяты будуць запоўнены сяброўскімі сустрэчамі. Вы прынясеце шмат радасьці блізкім людзям.

**ШАЛІ** (24.9 - 23.10) Пастарайцеся, каб усьмешка не сыходзіла з Вашага твару. Адзінокія Шалі здабудуць прыхільнасьць Вадалея.

**СКАРПІЁН** (24.10 - 22.11) Перад Калядамі чакае Вас посьпех у працы. У сьвяточныя дні пастарайцеся паказаць блізкім, якое вялікае значэньне яны для Вас маюць.

**СТРАЛЕЦ** (23.11 - 21.12) На Каляды Вы ўсіх зачаруеце. Але найбольш часу прысьвяціце каханаму чалавеку. Асабліва ў Калядны вечар, бо ў Сьвятую ноч спаўняюцца ўсе жаданьні.

**КАЗЯРОГ** (22.12 - 20.1) Не забывайце, што Каляды - сямейнае сьвята. Лепш за ўсё адзначыць яго згодна са старажытнымі традыцыямі. Прынясеце шмат радасьці дзецям.

**ВАДАЛЕЙ** (21.1 - 19.2) Зоркі радзяць Вам на сьвяты нікуды не ад'язджаць. Лепш за ўсё адчуеце сябе ў роднай хаце. Будзе шмат сустрэчаў з роднымі і сябрамі. Магчыма рамантычная прыгода з Шалямі.

**РЫБЫ** (20.2 - 20.3) Выключна шчасьлівы тыдзень, можа найлепшы ў годзе. Шмат магчымасьцяў для паляпшэньня сувязяў з роднымі. Але не сядзіце ўвесь час за сталом. Пажадана больш бываць на сьвежым паветры.




**21 сьнежня 1796 г.** У вёсцы Мясота (Навагрудзкі павет) нарадзіўся Тамаш Зан (200 гадоў таму), стваральнік таварыства філаматаў, паэт-рамантык, адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры.

**22 сьнежня**

**1798 г.** У Вільні памёр Джузепе Сака (Sacco), італійскі архітэктар. У Горадні працаваў з 1773 г. Стваральнік каралеўскай сядзібы Станіслававa, палацу Тызенгаўза, аўтар будынкаў у Шчорсах, Сьвяцку.

**23 сьнежня**

**1796 г.** Нарадзіўся Віктар Гельтман (200 гадоў таму), стваральнік тайнага патрыятычнага згуртаваньня ў Сьвіслацкай гімназіі, удзельнік паўстаньня 1830-31 гг., публіцыст.

**1831г.** Памерла Эмілія Плятэр (165 гадоў таму), удзельніца вызвольнага руху, зьбіральніца беларускага фальклору.

**24 сьнежня**

**1761г.** Нарадзіўся Якуб Ясінскі (235 гадоў таму), генерал войскаў Рэчы Паспалітай, адзін з кіраўнікоў збройнага чыну 1794 г. Паэт-рамантык.

**1798 г.** У маёнтку Завосьсе (каля Навагрудку) нарадзіўся Адам Міцкевіч, класік сусьветнай літаратуры, філамат, палітычны дзеяч.

**25 сьнежня**

**1795г.** Была ўтворана Слонімская губерня. Горадня стала цэнтрам павету (уезду).

**1844г.** У вёсцы Вішнеўка (на Ашмяншчыне) памёр Адам Храптовіч, асьветнік, мецэнат мастацтваў і навукі, удзельнік паўстаньня 1794 г. Памнажальнік кніжнага збору Шчорсаўскай бібліятэкі.

**1919 г.** У вёсцы Дзетамля (на Навагрудчыне) нарадзіўся Кастусь Мярляк, публіцыст, мемуарыст, дзеяч беларускай эміграцыі.

**26 сьнежня**

**1978г.** У Лондане памёр Вінцук Адважны (Язэп Германовіч), нараджэнец Гальшанаў, беларускі каталіцкі сьвятар, рэдактар часопісу «Божым шляхам», паэт.

**Падрыхтаваў Ул.Хільмановіч.**

# ГУЛЬНЯ ЗНАКАЎ ЦІ НОВЫ ДЭКАДАНС?

**Апошняя дэкада ХХ-га стагоддзя вельмі дзіўная і, разам з тым, сімптаматычная рэч. Яна зьяўляецца пераходным мастком у будучыню, падмуркам наступнага стагоддзя і, што вельмі сімвалічна, тысячагоддзя. Як адчуць гэтую нябачную плынь часу і, каб ня кануць у Лету, адбіцца ў люстры вечнасьці?**

Менавіта такія думкі прыходзяць у галаву, бадай, адно творчай інтэлігенцыі, якая апошнім часам знаходзіцца на раздарожжы ў чаканьні нечага важнага. Але, ня бачачы істотных пераменаў у сучасным жыцьці, яна ў мастацкіх творах хіліцца да патаемных сімвалаў, экзатычных знакаў, пануравецца ў сьвет асабістых перажываньняў і рэфлексіяў.

Пацьвердзіла гэта й супольная выстава жывапісу Сяргея Грыневіча, Вікторыі Загнетавай і Аляксандра Сільвановіча, якая адкрылася на мінулым тыдні ў выставачнай залі гарадзенскага абласнога аддзяленьня Саюзу беларускіх мастакоў. Няма нічога дзіўнага ў тым, што гэтыя жывапісцы-постмадэрністы выставіліся разам. Атрымаўся даволі арганічны й цікавы трыумвірат. «Геаметрычны» жывапіс С.Грыневіча — працяг ягонай «пірамідальнай эпапеі» — гарманічна суседнічае з падкрэсьлена дэкаратыўнымі палотнамі В.Загнетавай, якія сваёй лагоднай стракатасьцю не замінаюць прэзентавацца мілым «анёлкам» і «мурынам» на працах А.Сільвановіча. Такім чынам на экспазіцыі адбываецца забаўная гульня колераў, знакаў, канцэптаў, якія апэлююць хутчэй да паганскіх часоў, чым да сёньняшняй рэчаіснасьці.

А мо паўсядзённы тлум — таксама гульня?

**Людвік САРОКА.**

**На здымку: адкрыцьцё выставы.**

**Фота Я.ВАНЮКЕВІЧА.**

# ПЕРАДКАЛЯДНАЯ ПРЭМ'ЕРА «АЛАДЗІНА...»

**Як прыемна марозным зімовым дзяньком прайсьціся з дзецьмі па засьнежаных гарадзенскіх вулках, Старым парку. А пасьля завітаць ва ўтульнае памяшканьне тызенгаўзаўскага тэатру, разьмясьціцца ў мяккім крэсьле і... апынуцца ў казачным сьвеце, дзе цэлы год гарачае сонца адбіваецца ў купалах усходніх мінарэтаў, дзе пульсуюць тлумныя базары, дзе забаўляюцца гарэзьлівыя хлапчукі і адбываюцца неверагодныя рэчы...**

Менавіта такое ўражаньне складаецца пасьля наведваньня сьпектаклю паводле аднайменнай арабскай казкі «Аладзін і чароўная лямпа», прэм'еру якога 14-15 сьнежня зладзіў Гарадзенскі абласны тэатр лялек.

Дзея на сцэне разгортваецца імгненна ды захапляе юнага гледача, бо камбінаваная ігра жывых актораў і актораў з лялькамі стварае адпаведную атмасьферу. Гарэзьнік Аладзін (малады дэбютант Аляксандр Енджэеўскі) і ягоная маці (акторка Галіна Закрэўская, якая таксама выконвае ролю дачкі султана — Будур) паверылі злому дэрвішу (грае Віктар Шалкевіч, ён жа ў ролі візіра) і, дзякуючы выпадку, сталі ўладальнікамі чароўнай лямпы ды зажылі весела і прыстойна. Аднак неспакойны Аладзін, пабачыўшы дачку султана — прыгажуню Будур, закахаўся й паслаў сваю маці да «цара ўсіх часоў» сватацца. Султан (актор Аляксандр Баброўскі), на дзіва, прыняў прось-



бу жанчыны. А далей разгараюцца любоўныя жарсьці, пра якія адным словам не распавядзеш. Хаця ролю апавядальніка ў сьпектаклі выконвае Аляксандр Ігнаценка (на здымку).

Музыку да сьпектаклю напісаў кампазітар Анатоль Кандыба, над сцэнаграфіяй папрацаваў мастак Алесь Сураў (цікава прадуманае асьвятленьне і зьяўленьне джына), а аўтар сцэнару і рэжысёр — Мікалай Андрэеў.

Варта прыйсьці і паглядзець на інсцэнізацыю гэтай прыгожай казкі.

**Ігар ГАНДЛЕЎСКІ.**

**Фота Я.ВАНЮКЕВІЧА.**





## СПОРТ

# СА ШЧЫТОМ ЦІ НА ШЧЫЦЕ?

**На пачатку сьнежня ў мадзьярскім горадзе Мішкальц прайшоў пяты Кубак сьвету па каратэ сярод спартоўцаў да 18-ці гадоў. Другі год запар удзел**




**у гэтых прэстыжных спаборніцтвах у разьдзеле куміт'э (паядынкі) бралі выхаванцы гарадзенскага трэнера Вячаслава Стацэнкі: Сяргей Канстанцінаў (да 16 гадоў) і Віктар Зьмітрэвіч (да 14 гадоў). Для выхаванца жНазіма Насірава - Івана Лук'янава (да 12 гадоў) - гэта быў дэбют на турнірах такога ўзроўню.**

Як паведаміў «Пагоні» Вячаслаў Стацэнка, падзеі на Кубку для гарадзенцаў разгортваліся драматычна. Пасьля сігналу суддзяў падрыхтавацца да паядынку, з-за датэрміновага заканчэньня папярэдняга бою нечакана адразу ж на татамі быў выкліканы Віктар Зьмітрэвіч. Але як толькі ён выбег на пляцоўку, дзе яго ўжо чакаў супернік з Венгрыі, - суддзі абвясьцілі паразу гарадзенца ... за нявыхад на пляцоўку. Усе спасылкі нашых трэнераў на тое, што па рэгламанту на падрыхтоўку да паядынку адводзіцца адна хвіліна, разьбіваліся аб каменныя твары спартовай Феміды. І толькі тады, калі надламаны псіхічна гарадзенскі каратыст ужо маральна «выключыўся» з турніру, суддзі нечакана перагледзелі сваё рашэньне і выклікалі Віктара на татамі. Але настрой на бой у яго быў ужо зусім ня той, і гэта адбілася на выніку - 2:3 на карысьць суперніка, які быў яўна слабейшым за Зьмітрэвіча.

Сапраўды па-геройску правёў турнір Сяргей Канстанцінаў. Пасьля пераламу правай рукі ён толькі напярэдадні паездкі ў Венгрыю атрымаў ад дактароў «дабро» на ўдзел у спаборніцтвах, але на паядынкі ўсё ж выходзіў у тугой павязцы і на «замарозках». Ужо пасьля першага паядынку, выйгранага датэрмінова - 6:1, рука стала «мёртвай». Тым ня менш, у другім паядынку перамога таксама на баку гарадзенца - 6:0. І толькі ў наступным коле траўма і перавага суперніка ў фізічных кандыцыях (Сяргей, дарэчы, быў самым маленькім у сваёй узроставай групе) выбілі Канстанцінава з турніру. Але і агульнае 16-е месца, заваяванае ў такіх абставінах, можна назваць посьпехам. Так мяркуюць, прынамсі, трэнеры зборнай каманды нашай краіны, якія ўжо разглядаюць Сяргея як аднаго з кандыдатаў на ўдзел у лютаўскім чэмпіянаце Еўропы ў Балгарыі.

Выдатным варта прызнаць і выступ Івана Лук'янава. У групе пачаткоўцаў ён стаў чацьвёртым у ката (фармальны комплекс). Посьпехі гарадзенскіх юнакоў адзначылі і арганізатары турніру - каманда Горадні запрошаная да ўдзелу летам у клубным чэмпіянаце сьвету сярод дарослых у Будапешце.

**Вітаўт Руднік**

**На здымку: В.Зьмітрэвіч і С.Канстанцінаў (зьлева).**

# «ПАГОНЮ» СПЫНІЎ «МЕЛІЯРАТАР»

**На міні-футбольным першынстве Горадні першую паразу пацярпела каманда «Пагоня», спонсарам якой зьяўляецца культурна-асьветніцкі фонд «Бацькаўшчына».**

У мінулую нядзелю «пагонеўцы» саступілі 0:4 мінулагоднім чэмпіёнам -клубу «Меліяратар», у складзе якога гуляюць славутыя браты Саладоўнікавы. А напярэдадні нашая каманда з лікам 3:0 перамагла РМЦ. Выдатна згуляў у гэтай сустрэчы брамнік Сяргей Ленец, а ўсе тры галы ў «Пагоні» забіў Уладзімір Макарэвіч.

Перад дзьвюма заключнымі гульнямі групавога турніру з «Нордам» і камандай Беларускага Таварыства глухіх «Пагоня» набрала 7 ачкоў з дванаццаці магчымых і мае рэальныя шанцы трапіць у вышэйшую лігу гарадзенскага міні-футболу.

**Вітаўт Руднік**

# СТАЛІЧНІКАМ *ШАРАДЫ* НЕ ПА ЗУБАХ

**Гродна-93 - РТІ РШВСМ - 82:81 і 85:81.**



Сустрэчы баскетбалістаў «Гродна-93» з менскім РТІ-РШВСМ чакаліся з нецярпеньнем. Дзьве вызнаныя паразы запар акрэсьлілі пытаньне сёньняшняй моцы чэмпіёнаў краіны. Але нават знакамітыя чыкагскія «быкі» нядаўна «скапыціліся» падобным чынам. Справаздачныя гульні выявілі, што «Гродна-93» валодае дастатковым наборам псіхалагічна-валявых якасьцяў. Гэта дазваляе спадзявацца на выхад клубу ў суперфінал як мінімум. Хаця да гэтага яшчэ далёка.

Першая сустрэча заключала ў сабе ўсё, чым так вабны баскетбол. І, галоўнае, зыходную інтрыгу да апошняй секунды. Хроніка заключных хвілінаў. 80:74 - здавалася б, упэўнена вялі госьці. У гэты момант бярэ на сябе адказнасьць Уладзімір Шарко, пуляючы шалёны «трульнік» (усяго за матч наш капітан набраў 25 ачкоў). Тут жа спрацоўвае шарнірная зьвязка Шарко-Маклакоў - 80:79. А далей пайшлі фалы і штрафныя кідкі. Кец выводзіць гаспадароў наперад - 80:81, а вось Качан кладзе дакладна толькі адзін мяч - 80:82. Менчукі на апошніх секундах атрым-



ліваюць таксама права на штрафныя, але тут у гульню «ўступаюць» гледачы, аглушальны сьвіст якіх бянтэжыць «радыётэхнікаў». У выніку 82:81 на карысьць чэмпіёнаў. Такіх напружаных матчаў у мінулым чэмпіянаце проста не было.

На другі дзень гаспадарам было прасьцей. Разышоўся не на жарты Шарко, учыніўшы менчукам сапраўдную шарадуканаду (усяго 32 ачкі). Стрымаць капітана «Гродна-93» РТІ так і ня змог. Праўда, гарадзенцы, ведучы 81:71, стварылі самі сабе праблемы. За дваццаць секундаў да завяршэньня лік стаў ужо 81:79, і тут гульню зноў узяў у свае рукі Шарко, забіўшы два штрафныя, а на апошніх імгненьнях выдаўшы пас праз усю пляцоўку Чарняку.

Наступныя гульні гарадзенцаў у Гомелі не адбудуцца (каманда «Сож» трапіла ў дарожную катастрофу, некалькі гульцоў сур'ёзна траўмавана). А Уладзімір Шарко адправіўся ў складзе зборнай на матч з Славакіяй.

**Ул.Хільмановіч**



# КІНААФІША ГОРАДНІ

**«ГРОДНА»:** 20-22 сьнежня - «Разява» - 9.50, 14.00, 18.00. «Вялікая прагулка» (2 серыі) - 11.40, 15.40, 20.00. ВІДЭА: 20-22 сьнежня - «Падземны вецер». Сеансы: 10.00, 12.00, 14.00, 16.00, 18.00, 20.00.

**«УСХОД»:** аўтаадказчык 47-81-29

**«ЧЫРВОНАЯ ЗОРКА»:** 20-23 сьнежня - «Куляадпорны» (камедыя-баявік) -12.30, 14.40, 16.50, 19.00, 21.10. «Разбуральнік, разбуральнік»(баявік) - 12.00, 14.10, 16.20. «Дзеткі» (для дарослых) - 18.30, 20.40. Дзецям: 20 сьнежня - «Рычы багач» - 16.50. 22 сьнежня - «Сьнягурка» - 11.00.

**«КОСМАС»:** 20 сьнежня - «Кароль вуліцы» - 13.40, 15.30. «Лічаныя секунды» - 17.20, 19.10, 21.00.Відэа: «Ядавіты плюшч-ІІ» - 20.30. 21 сьнежня - «Кароль вуліцы» - 13.40. «Лічаныя секунды» - 15.30, 17.20, 19.10. Відэа: «Нябесныя ваяўнікі» - 12.30, 14.30, 16.30. «Ядавіты плюшч» - 18.30. Дыскатэка - 21.00. 21 сьнежня - «Усе мужчыны гэта робяць» - 10.00. «Лічаныя секунды» -11.50, 13.40, 15.30. Відэа: «Нябесныя ваяўнікі» - 10.30, 10.30, 14.30,16.30.

**Канцэрт рок-гуртоў «Крама» і «BLUS BEER DRINKING» (Польшча).**

**22 сьнежня** ў 20.00 у кінатэатры «Космас» толькі адзін раз у Горадні рок-гурт «Крама». Білеты ў касе кінатэатра, кошт 15000 руб.

# ГАРАДЗЕНСКІ ЎІК-ЭНД

**Гарадзенскі абласны драматычны тэатр:** 21 сьнежня - «Беларуская камедыя» - 19.00. 22 сьнежня- «Іграем Маршака» - 12.00. «У наступным годзе ў той жа час»-19.00

**Гарадзенскі абласны тэатр лялек:** 21 сьнежня - «У шчасьлівай даліне мумітроляў» - 12.00. «Тутэйшыя» - 18.00. 22 сьнежня - «Кот у ботах»- 12.00.

**Выставачная Зала абласнога аддзяленьня Саюзу мастакоў Беларусі** запрашае наведаць Калядную мастацкую выставу Вікторыі Загнетавай, Сяргея Грыневіча, Аляксандра Сельвановіча.

**Выставачная зала абласнога Дому тэхнічнай і мастацкай творчасьці** вучнёўскай моладзі (вул. Замкавая, 13):працуе І Гарадзкая выстава дзіцячага малюнку «Сьвятло вобразаў», завяршае работу Міжнародная выстава дзіцячай фотатворчасьці «Горадня'96»

**Галерэя «У Майстра»** :перадкалядны распродаж.

**Новы Замак:** мастацкая выстава «Нацюрморт» гарадзенскіх мастакоў канца XIX-XX ст.

**Музей гісторыі рэлігіі** запрашае наведаць новую выставу «Раство Хрыстова»

**К/тр «Гродна»**: персанальная выстава графічных твораў Валянціны Муліцы

**К/тр «Кастрычнік»:** дэманструецца гарадзкая выстава дзіцячай фотатворчасьці

**Абласны метадычны Цэнтр народнай творчасьці:** працуе пасьмяротная выстава мастачкі Ліліі Уладзіміраўны Трохалевай

**Кінаклуб «Ракурс»** (к/тр «Чырвоная зорка»): 25 сьнежня - «Пакуль ты спаў» - 19.00.

**Віталь Нікановіч**

## КРЫМІНАЛ

# ЗНАЙШЛІ ГРАНАТЫ

Падпольныя фірмы па гандлю зброяй і вайсковым ладункам - не навіна. Вось і ў Лідзе зноў раскрытая група, якая мела намер прадаць у Горадню партыю патронаў.

А днямі яшчэ адзін арсенал гранатаў выяўлены непадалёку ад гаражоў, што на вуліцы Дакучаева.

# СЬЛІЗКАЕ МАСЛА

1560 кілаграмаў сьметанковага масла адабрала міліцыя ў жыхарак гораду Баранавічы Н. і М. пры спробе вывезьці гэты «стратэгічны прадукт беларускай эканомікі» цягніком Львоў-Санкт-Пецярбург. Жанчыны могуць «пасьлізнуцца» на гэтым масьле на некалькі гадоў пазбаўленьня волі.

# ГОСЬЦЬ ЗДАЛЁКУ?

На гары Басудан-Ула, што ў Тыбецкай зоне Кітаю, паляўнічыя знайшлі ўмёрзлы ў лёд труп старажытнага чалавека.

Вучоныя высьветлілі яго ўзрост - каля 5000 гадоў. Ва універсітэце штату Ільлінойс (ЗША) знаходку старанна дасьледавалі. Сьпецыялісты былі зьдзіўленыя: амаль усе органы знойдзенага цела штучнага паходжаньня, а матэрыялы, з якіх яны зробленыя, невядомыя сучаснай навуцы. Доктар,які дасьледаваў «лядовую мумію» ўпэўнены: у руках вучоных - касьмічны прыхадзень.

# БУДМАТЭРЫЯЛЫ ДАРАГІЯ...

Таму ў Воранаўскім раёне пачалі вырашаць гэтую праблему надзвычай арыгінальным спосабам. Днямі з дарогі Радунь-Дацішкі зьнікла шэсьць бетонных слупоў з дарожнымі знакамі: знайшлі «прапажу» ў падмурку хлява аднаго «прадпрымальнага» чалавека.

# КОНКУРС "ПАГОНІ" "МАЯ СЯМ'Я"

"Пагоня" працягвае друкаваць фатаграфіі конкурсу "Мая сям'я". Прымаюцца любыя здымкі, якія маюць каштоўнасьць для Вас, і якія зробяць прыемнасьць Вашым блізкім, дзе б яны зараз не знаходзіліся.

**Лепшых аўтараў чакае прыз! Скарыстайце з нагоды!**



Чарговы здымак на наш конкурс даслала сп. Роза Гарачава, якая жыве ў Горадні на вуліцы Стэфана Баторыя. У сваім каментары да здымку яна напісала: "Майму фотаздымку - 40 гадоў. Мы, маладыя сьпецыялісты, атрымаўшы вышэйшую адукацыю, працуем выхавальнікамі ў дзіцячым доме нумар два ў Парэччы. На руках у нас - першанец. Нашая радасьць і надзея. Злева - мама і сястра-студэнтка. Мы былі шчасьлівымі, мы любілі ўвесь сьвет..."

# КРЫЖАВАНКА



*Перакладзі на беларускую мову*

**Па гарызанталі:** 5.Жидкая грязь. 6.Приговор. 10. Свёкла. 11. Утка. 12.Колыбель. 15. Шкворень. 16. Чудо. 17. Мотыга. 20. Жара. 21. Ярмарка. 25. Штаны. 26. Роща. 27. Устав. 31. Налог. 33. Копыто. 34. Жезл. 35. Блюдце. 36. Тыква.

**Па вертыкалі:** 1. Вылущившийся орех. 2. Забота. 3. Гроздь. 4. Лепешка. 7. Туловище. 8. Желудок, брюхо. 9. Икота. 13. Изюм. 14. Пушка. 18. Палач. 19. Число. 22. Трель, эхо. 23. Утенок. 24.Пивная кружка. 28. Нищий. 29. Лесопильный завод. 30. Остров (песчаный). 32.Коготь.

**Адказы на крыжаванку, зьмешчаную ў папярэднім нумары:**

**Па гарызанталі:** 5. Дзівак. 6. Лайдак. 10. Прадуха. 11. Аплічка. 12. Лясун. 13. Шчаўе. 14. Нарыс. 15. Парэчка. 17. Агіда. 18. Сукня. 19. Жвір. 20. Урад. 24. Куфар. 25. Абсяг. 27. Алейнік. 30. Змора. 31. Тарпа. 32. Пласт. 33. Пякотка. 34. Успамін. 35. Скакун. 36. Скурат.

**Па вертыкалі:** 1. Дзядоўнік. 2. Запалка. 3.Каханак. 4. Палівачка. 7. Бручка. 8. Пустэча. 9. Скрыня. 15. Пачвара. 16. Асмалак. 21. Афарбоўка. 22. Кайданы. 23. Аскабалак. 24. Кумпяк. 26. Гаплік. 28. Лапатун. 29. Істужка.

ПАГОНЯ
Грамадзка-палітычная газета
Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд «Бацькаўшчына»
Рэгістрацыйны нумар 597
Падпісны індэкс 63124

Адрас рэдакцыі:
230023, г.Горадня, вул. Дамініканская,1
(0152) 72-35-61, 72-29-96
E-mail: andrei@pagonia.belpak.grodno.by
FREESPACE BBS 0152-72-37-14 (23.00-10.00)



Гарадзенская абласная узбуйнёная друкарня: 230023, г.Горадня, вул. Паліграфістаў, 4
Заказ 4171 Наклад 10839
Нумар падпісаны да друку ў 16.00, 19.12.96

Рэдактар Мікола Маркевіч